*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 50 (262) | 13 снежня 1995 г. | Кошт — 500 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **29 ЛІСТАПАДА АДБЫЛІСЯ ВЫБАРЫ ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА Ў 141 АКРУЗЕ, ДЗЕ НЕ БЫЛІ АБРАНЫ ДЭПУТАТЫ Ў ТРАЎНІ ГЭТАГА ГОДА.** Агульны працэнт удзелу выбаршчыкаў у галасаванні — 61,2, адпаведна па абласцях: Брэсцкай — 64, Віцебскай — 60,8, Гомельскай — 62,7, Гарадзенскай — 61,3, Магілёўскай — 63,9, Менскай — 65,7, па горадзе Менску — 56,6 працэнта. Было абрана 20 дэпутатаў. Сярод іх: 5 прадстаўнікоў ПКБ, 3 аграрыі, 1 ад АДПБ і 11 беспартыйных. У дзвюх акругах (Смаргонскай і Брэсцкай — Заводскай № 4) выбары адбыліся, аднак ніводзін з двух кандыдатаў не набраў большасці галасоў. У 119 акругах 10 снежня адбыўся другі тур галасавання.

○ ***ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА Ў СВАЁЙ РЭЗІДЭНЦЫІ ПРЫНЯЎ ВЯЛІКУЮ ГРУПУ ЖУРНАЛІСТАЎ.*** *У час гутаркі ён, у прыватнасці, сказаў: «Мы беларускую мову падтрымліваем. Шмат сродкаў накіравана на выданне беларускамоўных кніг, газет. Але важна не толькі выдаць. Важна, каб гэта было прачытана. Тут не ўсё добра. З Саюза пісьменнікаў мяне просяць распаўсюджваць беларускую літаратуру праз паштальёнаў, навязваць. Як жа тады быць з дэмакратыяй? А да беларускай мовы я стаўлюся добра». З вуснаў Прэзідэнта ў час гутаркі прагучала і гэта: «На наступны год для падтрымкі прэсы і друку мы плануем каля 800 мільярдаў рублёў».*

○ **КІРАЎНІК АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МІХАІЛ МЯСНІКОВІЧ ВЫДАЎ СПЕЦЫЯЛЬНАЕ РАСПАРАДЖЭННЕ** аб выкананні Указа Прэзідэнта «Аб некаторых мерах па забеспячэнні статуса дзяржаўнай сімволікі». Згодна з гэтым распараджэннем Дзяржаўны сцяг і Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь да 15 снежня гэтага года павінны быць устаноўлены ў службовых кабінетах кіраўнікоў цэнтральных органаў кіравання рэспублікі і г.д. Трэба ўстанавіць сцягі нават у фае і актавых залах, у навучальных установах — у аўдыторыях, школьных класах, актавых залах; у воінскіх часцях — у пакоях адпачынку, клубах, бібліятэках і г.д. Ці не занадта шмат, бо ёсць жа прымаўка: «Што занадта — то не здрова».

○ ***ПЕРШАЕ ПАСЯДжЭННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ КАМІСІІ ПА ПАДРЫХТОЎЦЫ НОВЫХ ПАДРУЧНІКАЎ У ГУМАНІТАРНА-ГРАМАДАЗНАЎЧАЙ СФЕРЫ АДБЫЛОСЯ 1 СНЕЖНЯ*** *ў Кабінеце Міністраў пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Русакевіча. Абмеркаваны пытанні, звязаныя з арганізацыяй работы гэтай камісіі і яе функцыямі. Заслухана інфармацыя Міністэрства адукацыі і навукі аб ходзе падрыхтоўкі і выдання новых падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў у сувязі з новым зместам адукацыі ў краіне.*

○ **ДА 1 СТУДЗЕНЯ 1996 ГОДА,** па словах міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Сянько, будуць ліквідаваны чэргі па абодва бакі граніцы Беларусі з Польшчай.

○ ***У ГАРОДНІ АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА*** *рабочых груп Гарадзенскага абласнога камітэта па экалогіі і Ваяводскага інспектарата аховы навакольнага асяроддзя ў Беластоку. На сустрэчы былі абмеркаваны планы супрацоўніцтва на 1996 год.*

○ **СВОЙ 75-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ АДЗНАЧЫЎ ГАРАДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ГІСТОРЫКА-АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ.** З гэтай нагоды прайшла навуковая канферэнцыя «Музеі і развіццё гістарычнага краязнаўства», адкрыта выстава «Гродзенская даўніна».

*"KASIV" ЯСЬ КАНЮШЫНУ... Стар. 2.*

*ПРАФЕСАР РАГУЛЯ: ЕЎРАПЕЙСКАЯ ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ І БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ Стар. 3.*

*Слуцкаму збройнаму чыну — 75 гадоў*





## Слава слуцкім паўстанцам!

Аргкамітэт 75-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну наладзіў шэраг мерапрыемстваў дзеля ўшанавання палеглых герояў. У суботу, 2 снежня, сябры некалькіх партыяў, рухаў, грамадскіх, маладзёжных аб'яднанняў паехалі ў мястэчка Вызну (гарадскі пасёлак Красная Слабада Салігорскага раёна), каб паставіць там крыж — такім помнікам пакуль што ўшанавалі слуцкіх паўстанцаў.

Перш грамада спынілася ў Слуцку каля краязнаўчага музея. У гэтым будынку (фотаздымак 1) у лістападзе 1920 года месціўся Нацыянальны камітэт Случчыны, які рыхтаваў і каардынаваў дзеянні слуцкіх паўстанцаў. Да адной з калонаў прымацавалі плакат, які згадваў пра падзеі 75-гадовай даўніны, паклалі вянкі ды пасля кароткіх прамоў і спявання гімна «Магутны Божа» рушылі ў Вызну. Каля гэтага мястэчка ў лістападзе—снежні 1920 года слуцкія паўстанцы біліся за незалежнасць Бацькаўшчыны.

Там, на пляцы каля царквы мужчыны-менчукі паставілі крыж (фотаздымак 2), які асвяцілі каталіцкі, праваслаўны і уніяцкі святары. А прысутныя добрымі словамі ўспомнілі герояўСлуцкага збройнага чыну ды памаліліся за палеглых.

На ўрачыстым вечы ў Вызне прысутнічаў сын аднаго з камандзіраў паўстання Леанід Антонавіч Сокал-Кутылоўскі. (Фотаздымак 3.)

**Фотарэпартаж Уладзіміра КАРМІЛКІНА.**

*Рэха*

## Настаўнікі даюць адпор антыбеларускім сілам

### З 350 вучняў беларускамоўных класаў толькі трое перайшлі ў суседнюю, расійскамоўную

Спадзяванні на тое, што беларускае настаўніцтва, як у мінулыя часы, пакорліва праглыне спробы антыбеларускіх сіл убіваць у галовы школьнікаў сфальсіфікаваную гісторыю з мэтаю прывучыць маладое пакаленне прыслужваць «вялікаму суседу», не апраўдваюцца. Не тое ўжо наша настаўніцтва, каб ягонымі рукамі рабіць такую справу. У адказ на публікацыю ў «Настаўніцкай газеце» начальніцкіх рэкамендацый лічыць царскага генерала Мураўёва-вешальніка анёлам-распаўсюджвальнікам культуры на Беларусі сумленныя педагогі сталі пісаць ва ўсе інстанцыі лісты з пратэстамі, даючы пераканаўчую аргументацыю шкоднасці для дабрабыту беларускага народа і яго выжывання гэтых «рэкамендацый». Да гонару журналісцкага калектыву «Настаўніцкай газеты» тут не праігнаравалі водгукі сумленных педагогаў. Адным з такіх водгукаў з'яўляецца артыкул дырэктара менскай сярэдняй школы № 2 Аляксандра Сядзякі «Павучыцца ў Танзаніі...» («НГ», № 90). Аўтар публікацыі яшчэ ў камуністычныя часы быў накіраваны ў Афрыку вучыць танзанійскіх школьнікаў фізіцы. Павандраваўшы па белым свеце, ён пераканаўся, што перш за ўсё дзяцей трэба выхоўваць так, каб яны любілі сваю Радзіму, навучыліся паважаць сваю культуру, мову. «Калі мы хочам, — піша ён, — каб Беларусь і яе народ сталі сапраўды падобныя на еўрапейскую дзяржаву, з якой не будуць смяяцца блізкія і далёкія суседзі за тое, што мы ўсур'ёз спрачаемся аб тым, якую замежную мову зрабіць дзяржаўнай, якую замежную валюту — нацыянальнай, якую чужую мытню паставіць на сваёй мяжы, — трэба пачынаць з гісторыі і школы. Трэба вярнуць сваю мову, гісторыю, імёны нацыянальных герояў беларускаму народу. А прыкладаў у нас хапае. Чаго варты Леў Сапега, які ўсе сілы накіраваў на ўмацаванне дзяржаўнасці і суверэнітэту роднай краіны...»

Звяртае зноў і зноў настаўнік пільную ўвагу на стратэгічную важнасць для развіцця нацыі шанавання роднай мовы, зноў жа спасылаючыся на пераканаўчы вопыт іншых народаў. «Першае, што зрабіла Чэхія, атрымаўшы незалежнасць, — згадвае настаўнік, — гэта ажывіла чэшскую мову, бо тады Чэхія была пераважна нямецкамоўнай. Ізраіль ажывіў забытую мову — іўрыт. А шведскамоўная Нарвегія, пасля вайны, атрымаўшы незалежнасць, слова да слова збірала па глухіх астравах сваю адметную мову, якой не існавала ўжо некалькі сот гадоў. Мова навучання ў школе — гэта не пытанне для абмеркавання ні ў адной краіне свету», — заключае Аляксандр Сядзяка, дарэчы, фізік па адукацыі, чалавек, які мае грунтоўны міжнародны вопыт.

Прыводзіць аўтар і пераканаўчы прыклад, як трэба практычна вырашаць важныя пытанні. «У маёй школе, — адзначае Аляксандр Сядзяка, — без асаблівых намаганняў удалося захаваць і спакой грамадзян, і выкладанне на беларускай мове. Проста не трэба нагнятаць істэрыку і вырашаць гэтыя пытанні на мітынгах. Хто захацеў вучыць сваіх дзяцей па-руску, той перавёў іх у суседнюю рускую школу. **Але з 350 вучняў беларускіх класаў такіх аказалася толькі 3.** Бацькі пачынаюць разумець — досыць ставіць эксперыменты на дзецях».

**Ул.Ас.**

*Алесь МІКАЛАЙЧАНКА*

## Пра нейтральную паласу

*Героям Слуцкага збройнага чыну прысвячаю*

Палякі тут, а тут — бальшавікі.
І горад Слуцк — у паласе нейтральнай.
А па-над гэтай паласой лунае:
— Быць Беларусі вольнай навякі!..
Уздымаецца у Слуцку збройны чын:
Сяляне, гараджане і вайскоўцы —
Рашучыя, абстрэляныя хлопцы
З дзесятка не пужлівага мужчын.
Гавораць: «Ні чырвоных, ні паноў
На карку не стрываюць беларусы...»
Гавораць: «Чым сканаем пад прымусам,
Няхай пральецца лепей наша кроў».
І ў бой яны ідуць за родны край,
За ўласныя дзяцінцы ды гасцінцы,
За тое, каб народ увесь чужынцы
Не зацягнулі ў пралетарскі рай...
Каб дзеці не спазналі Салаўкоў,
Лукішкаў, Курапатаў і Хатыняў...
Каб у Чарнобыль генафонд не кінуў
Партыйны бонза — бюракрат Слюнькоў...
Каб кожны род меў у вяках працяг
Ды красаваў сярод лясоў і гоняў...
Каб нас да шчасця прывялі Пагоня
І наш спрадвеку нескароны Сцяг!
Давайце ж мы 20-ты ўспомнім год,
Дзядоў сваіх ды прадзедаў успомнім.
Не іх, а нас чырвоных д'яблаў коні
Стапталі і стаўклі ў бязродны зброд...
Не іх, а нас, парастраляў ГУЛАГ...
Не з іх, а з нас, для псоў варылі студзень...
Ці ж уваскрэснем мы, калі забудзем
Пра год 20-ты, пра герояў прах?
Калі ў глухім бяспамяцтве сябе
Задушым самі ўласнымі рукамі?
Дык хто, скажыце, выйдзе разам з намі
На ляда наша з думкай аб сяўбе?
Калі ж яшчэ ты ў стане мазгаваць,
Калі з душы не вытравіў Ісуса,
Калі яшчэ завешся беларусам,
То збройны чын не дасць спакойна спаць.

## Аляксей Рагуля: «Сёння ў цане сапраўдныя каштоўнасці»

*Здэканам **факультэта народнай культуры** Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка **Аляксеем Уладзіміравічам РАГУЛЕМ** гутарыць карэспандэнт «Нашага слова» **Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**.*

**— Аляксей Уладзіміравіч, раскажыце пра факультэт, які Вы ўзначальваеце, калі ён утвараўся, якія спецыяльнасці атрымваюць яго выпускнікі?**

— Факультэт утварыўся ў 1994 годзе. Ён існуе пры кафедры тэорыі і гісторыі культуры. Як вядома, культура трымаецца на пэўных стэрэатыпах і парадыгмах, якія сфармаваліся на працягу шматвяковай гісторыі народа. На Беларусі носьбітамі фундаментальных пачаткаў народнай, а гэта значыць, агульначалавечай культуры перш за ўсё былі народныя майстры. Яны, самі таго не ўсведамляючы, супрацьстаялі знішчальнай дзейнасці афіцыёзу ў культуры. Беларусь на працягу апошніх трохсот год не мела сваёй дзяржавы. Дзяржава была ўвесь час варожая і да мовы, і да культуры. Тым не менш, беларускі народ валодае дастатковым духоўным імунітэтам, каб нават у такіх нялюдскіх умовах захаваць сваю самабытнасць, сваю культуру, хаця гэтая культура яшчэ не атрымала агульначалавечае прызнанне. Але носьбітаў традыцыйнай культуры сёння становіцца ўсё менш і менш. І вось узнікла праблема, якую трэба неадкладна вырашаць. Таму пры кафедры тэорыі і гісторыі культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка створаны факультэт народнай культуры, каб падрыхтаваць спецыялістаў, якія могуць не толькі вытлумачыць значэнне мастацкіх вобразаў і сімвалаў, раскрыць змест культуры, але і самі могуць стварыць гэтую культуру.

**— А якая спецыяльнасць будзе запісаная ў дыпломе выпускнікоў?**

— Набываюць у нас наступныя спецыяльнасці: айчынная і сусветная культура і фальклор; кваліфікацыя — выкладчык айчыннай і сусветнай культуры, кіраўнік фальклорнага калектыву. Другая спецыяльнасць — выяўленчае мастацтва і народныя рамёствы. Кваліфікацыя — выкладчык выяўленчага мастацтва і народных рамёстваў, педагог-мастак (здаецца, упершыню ў нас пачалі рыхтаваць такіх спецыялістаў — «педагог-мастак»). І — выкладчык фізічнай культуры і спорту, метадыст па аздараўленчай рабоце. Адным словам, як бачыце, — тры здвоеныя спецыяльнасці ў нас ёсць, і факультэт разлічаны на тое, каб **рыхтаваць людзей, здольных арганізаваць здаровы лад жыцця**, абапіраючыся на лепшыя традыцыі перш за ўсё сваёй, нацыянальнай, культуры, з улікам беларускага менталітэту, і разам з тым гэтыя спецыялісты павінны добра ведаць агульначалавечую культуру.

**— Выкладанне вядзецца толькі на беларускай мове?**

— Яно павінна весціся так. На жаль, пакуль такіх спецыялістаў у вышэйшай школе, якія ўмелі б весці заняткі на беларускай мове, яшчэ малавата. Зразумела, і праведзены рэферэндум не спрыяе ўкараненню беларускай мовы. Але я б не сказаў, што такое становішча паўплывала на вучэбны працэс у нас ва універсітэце. Кафедра тэорыі і гісторыі культуры зараз вядзе выкладанне на дзевяці факультэтах нашага універсітэта, і ўсюды па-беларуску. У гэтым асаблівасць нашай канцэпцыі — беларуская культура ў агульначалавечым культурным, гістарычным працэсе. Я б хацеў звярнуць увагу на яшчэ адзін аспект пытання «культура і мова». У развіцці таго ці іншага гісторыка-культурнага цыкла надыходзіць перыяд, калі слову, мове належыць рашаючая роля ў абагульненні ўсіх здабыткаў мастацкай культуры. Гэты працэс я б назваў працэсам вербалізацыі культуры. І паўстае ён тады, калі ўжо мы маем справу з культурай развітой, з яе галінамі, відамі, формамі і г.д., і ўзнікае патрэба ў культуралагічным, філасофскім асэнсаванні здабыткаў. У нас, на жаль, многія віды культуры яшчэ носяць апісальны характар. Можа, у меншай ступені гэта датычыцца літаратуразнаўства, але шмат у чым характэрна для фалькларыстыкі. У нас, па сутнасці, няма тэорыі народнай культуры, але, думаецца, наяўнасць нашага факультэта і культуралагічных кафедраў будзе стымулам для яе стварэння. Нам трэба выпрацоўваць і філасофскую культуру. Асэнсаваць сваю культуру і перш за ўсё яе фундаментальныя асновы. Сярод такіх асноў я назваў бы тры: *людства*, альбо *людскасць*, *зямля* і *шлях*. Вось гэта асноўныя катэгорыі, якія, на маю думку, вызначаюць характар беларускай культуры, якія забяспечылі ёй самабытнасць і стварылі ёй магутны патэнцыял, устойлівы імунітэт супраць антыкультуры, масавай культуры, супраць афіцыёзу, супраць усяе псеўдакультуры, што часам выдаецца за навейшыя дасягненні, а на самай справе толькі разбуральна ўплывае на асобу. Мы выходзім на праблему «вербалізацыі культуры» — «праблема беларускай мовы» — «праблема асобы». «Нацыя — мова — культура»... Вазьміце, напрыклад, хоць бы такое пытанне, як «трасянка». Хто з нашых псіхолагаў, лінгвістаў, іншых даследчыкаў займаўся пытаннем, як «трасянка» беларускіх гарадоў уплывае на асобу? Мы можам з упэўненасцю сказаць, што яна не спрыяе творчай засяроджанасці, канцэнтрацыі духоўнай энергіі і самарэалізацыі асобы. Наадварот, яна «размагнічвае» чалавека, дэфармуе яго творчы патэнцыял. Праблема гэтая будзе вырашана паспяхова тады, калі здабыткі беларускай культуры будуць асэнсаваны па-філасофску, тэарэтычна абгрунтаваны, зроблены адпаведныя высновы менавіта на беларускай мове. Чужая мова тут бяссільная.

**— А як Вы, у такім выпадку, ацэньваеце двухмоўе?**

— Двухмоўе ў культурным жыцці — гэта вялікая шкода. Гэта далейшае раздваенне асобы, не што іншае, як падтрымка працэсаў маргіналізацыі асобы. Узаконенае двухмоўе якраз і разлічана на маргінальнага чалавека, чалавека частковага, непрыдатнага для творчай дзейнасці.

**— А каго прывабіў Ваш факультэт? Як Вы адбіраеце будучых студэнтаў?**

— Сёння агульначалавечая з'ява — настальгія па сапраўднай, традыцыйнай народнай культуры, па сапраўдных каштоўнасцях. Моладзь стыхійна адчула, што ў фальклоры закладзены магутны патэнцыял — некалі Гумбальд называў мову суб'ектам культуры, вылучаў у мове ўнутраную энергію, якая выклікае напрамак творчай дзейнасці асобы. Моладзь адчувае, што тут, у працы на ніве роднай культуры, кожны можа самарэалізавацца, сцвердзіць сябе, як асобу, як чалавека. І я павінен сказаць, што сярод нашых навучэнцаў якраз-такі многа гарадской моладзі. Хацелася б нават, каб з рэгіёнаў было больш, бо важныя носьбіты менавіта рэгіянальнай культуры. Напрыклад, у сэнсе ведання народных рамёстваў ці народных песняў, ці традыцыйных народных строяў. Нам трэба гэта ўсё збіраць. Дарэчы, студэнты ўжо ўключыліся ў гэтую работу, яны прывезлі вельмі цікавыя знаходкі — ёсць нават вырабы народных майстроў мінулага стагоддзя. Ствараецца такім чынам метадычны фонд факультэта народнай культуры. Што да адбору навучэнцаў — мы глядзім, каб чалавек быў камунікабельны, гаваркі, каб умеў па-людску звярнуцца, павесці за сабою, кіраваць, упраўляцца з баянам, з гармонікам, з пэндзлем... Правяраем здольнасць да сцэнічнай дзейнасці. Гэта — для тых, хто ідзе на фальклорнае мастацтва. Для тых, хто ідзе на народныя рамёствы, — вельмі строгі экзамен па малюнку.

**— А над чым працуеце зараз Вы асабіста?**

— Кафедра з першых дзён свайго існавання вызначыла свой асноўны кірунак: еўрапейская цывілізацыя і беларускі шлях. Праведзеныя даследаванні пераконваюць нас у тым, што беларуская культура — гэта культура заходняга тыпу, крытычнага мыслення, культура індывідуалістычная без крайнасцяў індывідуалізму. Для беларускай культуры характэрны кансерватыўны тып мыслення, г.зн. ахоўны. Маю на ўвазе імунітэт супраць рэвалюцыянізму — бальшавіцкага, неабальшавіцкага ці яшчэ якога-небудзь, — добра выказаны ў цэлым шэрагу прымавак-прыказак. «Паміраць збірайся, а жыта сей». Беларус не хоча і не будзе ахвяраваць дзеля туманнай светлай будучыні тым, што ў яго сёння ёсць. Для беларуса тая будучыня мае цану, якая вырастае, як жытні колас з зямлі. Будучыня, якая вырастае з сучаснасці. Трэба, каб уся інтэлігенцыя выразна ўсведамляла гэты важны момант. Ён тлумачыць многае, у прыватнасці, жанравую прыроду духоўнай культуры. У нас, фактычна, утопіі як жанра не склалася, затое ёсць ідылія, ёсць «казка жыцця», дыстопія — разнавіднасць антыўтопіі, звычайна накіраваная супраць той культуры, якая апраўдвае метады і прыёмы таго ладу, калі дубінамі заганяюць у рай. Акрамя высновы, што па структуры свайго мыслення мы далучаемся да заходнееўрапейска-паўночнаамерыканскага рэгіёна, у нас ёсць яшчэ адна адметнасць. Наша культура ўзнікла ў час усеагульнага, татальнага крызісу культур, які пачаўся ў другой палове XIX стагоддзя. А ў нас тады ішлі працэсы нацыянальнага адраджэння, развіццё гуманістычных ідэалаў, што закладваліся ў ранейшую эпоху. Рацыяналістычны пачатак у Беларусі захаваўся моцным і ў эпоху крызісу. Інтуітывізм і рацыяналізм не зрабілі, як і іншыя формы і віды дэкадансу, моцнага ўплыву на беларускую культуру, — здаровы чалавечы пачатак перамог, і ў сувязі з гэтым цікава прасачыць адносіны такіх катэгорый, як этычнае і эстэтычнае. Я б сказаў, што этыка на Беларусі на першым месцы. Перш за ўсё — людскасць, чалавечнасць. Сістэма эстэтычных адносін падпарадкаваная сістэме этычных ацэнак асобы, чалавека, гістарычнай падзеі і г.д. Дарэчы, многія заходнія даследнікі, напрыклад, Арнольд Швейцэр, лічаць, што ратунак культуры ў яе этызацыі. Заміламаванне жыццём, усімі формамі чалавечага жыцця — галоўны пафас беларускай культуры.

## Маладая Беларусь

*Шаноўная рэдакцыя!*

*Гімназісты — народ разумны і цікаўны, таму на ўроках літаратуры можна пачуць і развагі аб культурным жыцці краіны, і спрэчкі на самыя розныя тэмы, і пра вынікі даследаванняў вучняў-навукоўцаў. Калі ж мы пачалі вывучаць тэму «Прызначэнне паэта і паэзіі ў творчасці Я. Купалы», мне і маім дзевяцікласнікам падумалася, што будзе цікава правесці журналісцкае даследаванне.*

**Людміла ДЗІЦЭВІЧ, выкладчык гімназіі № 199.**

# Мы пыталіся пра Янку Купалу

Калі мы чыталі вершы Янкі Купалы, напоўненыя болем за родную старонку, крыўдай за родны люд, радкі, прасякнутыя трывогай аб будучыні і жаданнем дапамагчы краіне паэтычным словам, узнікла пытанне: а ці помніць, ці ведае Янку Купалу той просты беларус, якому пісаў паэт свае радкі, ці недарэмным быў літаратурны подзвіг песняра? І мы заняліся даследаваннем «Ці ведае Беларусь Я. Купалу?»

Мы апыталі вучняў малодшых і старэйшых класаў нашай гімназіі, настаўнікаў і простых людзей, якіх сустракалі на вуліцы. Вось якія пытанні мы ім задавалі:

1. Хто такі Янка Купала?
2. Якое яго сапраўднае прозвішча?
3. Чаму ён выбраў такі псеўданім?
4. Якія творы Янкі Купалы вы ведаеце?
5. Ці спадабаліся яны? Чаму?
6. Дзе знаходзіцца музей Янкі Купалы і ці былі Вы там?

З гэтымі пытаннямі мы перш падышлі да вучаніц 4-га класа. На першае яны адказалі смела і ўпэўнена, але на астатнія адказвалі нясмела, вельмі чырванелі і саромеліся, калі не ведалі адказу — у свой час яны пра ўсё даведаюцца. Самае галоўнае, што яны вельмі цёпла гаварылі пра купалавыя вершы, бо, казалі, вершы лёгка вучыць на памяць. Нават дзеці ў такім узросце адчуваюць песеннасць, мілагучнасць і нязмушанасць купалаўскіх радкоў. Мы, старэйшыя, ведаем, што значыць «лёгка вучыць». Адна дзяўчынка паскардзілася, што вельмі мала твораў Янкі Купалы ў падручніках. Але і гэта не бяда, яны будуць глыбей вывучаць творчасць паэта ў старэйшых класах. Нам было прыемна даведацца, што дзеці жадаюць чытаць і вучыць Купалавы вершы ды паэмы.

Усе астатнія апытаныя вучні ведаюць Янку Купалу ў асноўным з школьнай праграмы. Старэйшыя — ведаюць сапраўднае імя паэта, гісторыю ўзнікнення псеўданіма, і кожны хоць адзін раз бываў у музеі Янкі Купалы. Яны з задавальненнем чытаюць яго «Паўлінку», «Тутэйшых» ці легендарны верш «А хто там ідзе?» Але толькі адзінкі чыталі ўвесь зборнік вершаў і бралі кнігі не па школьнай праграме.

Настаўнікі з замілаваннем і глыбокай павагай і любоўю гаварылі пра Купалавы творы. Асабліва шмат расказала настаўніца англійскай мовы Мая Браніславаўна Бязлюдава, бо яе маці была знаёма з Янкам Купалам, а сама Мая Браніславаўна ведала жонку паэта. Настаўнікі называлі такія творы, як «Курган», п'есы, а асабліва падкрэслівалі верш «Спадчына», які стаў песняй і цудоўна гучыць у выкананні Данчыка.

У нашай гімназіі Купалу ведаюць, шануюць і любяць за адданасць і найвялікшую любоў да Радзімы і да беларуса.

Мы пыталіся пра Янку Купалу ў людзей «з вуліцы». Усе ведаюць паэта, але ў большасці выпадкаў як аўтара п'есы «Паўлінка». Памятаюць, што «некалі нешта такое ў школе праходзілі». Прычым, часта блытаюць творы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Амаль ніхто(!) не адказаў на пытанне пра сапраўднае прозвішча і прычыну выбару такога псеўданіма. І нават на пытанне: «Ці любіце Вы Купалу?» — таксама адказвалі няўпэўнена. Некаторыя гаварылі, што ім падабаецца ўся творчасць паэта, але мы не ўпэўненыя, што гэтыя людзі сапраўды ведаюць і разумеюць творчасць вялікага песняра.

Такім чынам, наша апытанне паказала, што адукаваныя людзі помняць, цэняць і любяць Янку Купалу. А цяпер гэтыя «простыя» людзі, змушаныя думаць больш пра хлеб, чым пра паэзію, пачынаюць забываць, што для іх выпакутаваў свае радкі Паэт. Памяць пра яго знікае з нашых душаў — мы робімся паязджанамі. Таму нам, тым, хто ведае Луцэвіча Івана Дамінікавіча, трэба адраджаць памяць пра Чалавека, які меў вялікі талент і аддаў яго ўсім людзям.

**Кацярына НЯЧАЕВА,**
**Кацярына МІКАЛАЕВА,**
**вучаніцы 9 «А» класа**
**гімназіі № 199.**
г.Менск.



У Віцебскай гімназіі № 1 была нядаўна вялікая ўрачыстасць: новых вучняў пасвячалі ў гімназісты. Цягам усяго жыцця ўспамінацьмуць яны той лістападаўскі дзень, калі кляліся добра вучыцца, быць годнымі сваёй гімназіі. Іх віншавалі ды абвязалі памятнымі стужкамі — гэты момант бачым на фатаграфіі Аляксандра Хітрова — кар. БелТА.

Ці нагадалі новым гімназістам пра вялікія традыцыі колішняй Віцебскай гімназіі, пра славутых яе выхаванцаў? Ці ведаюць вучні, скажам, пра Каэтана Касовіча, вядомага санскрыптолага, які, перш, самастойна вывучаў родную беларускую мову і падпісваўся псеўданімам «Беларус К.К.»? Не падкажа нам фотаздымак і пра тое, на якой мове кляліся новыя гімназісты.

У сусвеце

# Беларусы сваім рэферэндумам падарвалі ўвагу да сябе ў Англіі

***З акадэмікам Міжнароднай акадэміі навук Еўразія, сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, выкладчыкам Лонданскага ўніверсітэта Джынам ДЫНГЛІ гутарыць карэспандэнт «Нашага слова».***

**— Спадар Дынглі, нагадаю, што наша першае інтэрв'ю было запісана на Міжнародным кангрэсе беларусістаў, які так фатальна супаў з рэферэндумам. Здагадваюся, што прывяло Вас у Менск на гэты раз, — сустрэча кіраўнікоў беларускіх суполак, якую наладзіла «Бацькаўшчына»?**

— Гэта не зусім так. Паколькі па нацыянальнасці я англічанін, то ў Згуртаванне беларусаў свету ўваходзіць не магу. На гэтай сустрэчы я прысутнічаю ў якасці госця.

**— А мэта Вашага візіту?**

— Правесці перамовы ў Менскім лінгвістычным універсітэце з прэтэндэнтамі на стыпендыі, якія дае вашым студэнтам наш урад. З дзевяці прэтэндэнтаў я павінен выбраць трох. У маёй дыспазіцыі толькі тры стыпендыі.

**— Гэтыя шчаслівыя будуць вучыцца ў Англіі?**

— Так, у Лонданскім універсітэце і на поўным дзяржаўным утрыманні.

**— Пытанне да Вас, спадар Дынглі, як да выкладчыка беларускай мовы і гісторыі. Як ідуць справы зараз, у новым навучальным годзе, з выкладаннем гэтых прадметаў у Лонданскім універсітэце?**

— Я цяпер выкладаю адну ўкраінскую мову. Беларуская мова больш не ўваходзіць у маю тэматыку.

**— А чаму?**

— Так вырашыў універсітэт без маёй на тое згоды. Са мной гэта пытанне не абмяркоўвалася.

**— У чым, на Вашу думку, прычына, што ў Лонданскім універсітэце адмовіліся ад выкладання беларускай мовы?**

— Думаю, паўплываў на такое рашэнне ваш рэферэндум. Мы ў сваёй краіне глядзім на рэальныя справы: калі самі беларусы не адчуваюць вострай патрэбы ў сваёй мове, то чаму мы не павінны вывучаць і яе даследаваць?

**— Сп. Дынглі, Вы беларусіст з вялікім стажам, няўжо Вы кінеце займацца беларусістыкай?**

— Мне цяжка зараз працаваць у гэтым напрамку. Скажу вельмі сумную навіну. У мяне быў кантракт з Лонданскім выдавецтвам на выданне падручніка беларускай мовы. Я ўжо заканчваў работу над гэтым падручнікам, як, дарэчы, і над украінскім размоўнікам. Але калі я вярнуўся ад вас пасля рэферэндуму і Міжнароднага кангрэса беларусістаў, выдавецтва разарвала наш кантракт, і трэба сказаць, што з маёй згоды. Сапраўды, няма сэнсу выдаваць такі падручнік.

**— Каму Ваш падручнік адрасаваўся? Студэнтам універсітэта?**

— Не толькі студэнтам, а і ўсім тым, хто хацеў бы вывучаць беларускую мову. Скажам, бізнесменам, турыстам і інш. Падручнік сітуацыйны, з дыялогамі. Шчыра кажу, што не бачу, у якой сітуацыі замежны турыст мог бы ў вас сёння карыстацца беларускай мовай без рэплік у свой адрас. Гэта я мог бы на вострую рэпліку адказаць па-расійску, але не нармальны турыст.

**— І Вы пакінулі працу над падручнікам?**

— А што было рабіць? Зараз працую над складаннем англійска-ўкраінскага юрыдычнага слоўніка. Хацелася б зрабіць такі самы англа-беларускі. Я вёў ужо перамовы па гэтым пытанні са сваімі беларускімі калегамі. Буду з імі аб гэтым гаварыць і цяпер. Такую кнігу можна было б зрабіць досыць хутка і лёгка.

**— Ці пішуць што ў Вашай прэсе пра Беларусь?**

— Пішуць, але мала. Нашы грамадзяне ў большасці не ведаюць, што існуе такая дзяржава. Думаюць, што яна — частка Расіі.

**— Што б Вы нам пажадалі?**

— Я хацеў бы, каб усе жыхары Беларусі ўрэшце зразумелі, што ім патрэбна свая дзяржава, каб развіўся дзяржаўны момант у мысленні людзей Беларусі.

**Ірына КРЭНЬ.**

У суседзяў

# На Украйне мілай

Напачатку лістапада ў Кіеве адбыўся Другі Міжнародны кангрэс палітычных вязняў камуністычных рэжымаў, у якім прынялі ўдзел дэлегаты ад 19 краін свету, у тым ліку Украіны, Беларусі, Расіі, Ізраіля, ЗША, Францыі, Чэхіі, Славакіі, Польшчы, Канады, рэспублік Прыбалтыкі. Асноўнай задачай кангрэса было асуджэнне таталітарызму, пабудаванага на камуністычнай ідэалогіі, крах якой непазбежны, асуджэнне КПСС, КДБ-НКУС, вінаватых у знішчэнні 60 мільёнаў савецкіх людзей, і патрабаванне міжнароднага суда над катамі за іх злачынствы супраць чалавечнасці.

На форуме была прынята рэзалюцыя наконт Курапатаў, пасля чаго ад імя Міжнароднага кангрэса накіраваны дакумент Прэзідэнту РБ А.Лукашэнку з патрабаваннем устанавіць помнік бязвінным ахвярам сталінскага генацыду ў Курапатах і ўзяць пад дзяржаўную ахову магілы з расстралянымі палітвязнямі ў 30—50-х гадах.

На кангрэс была запрошана і я як прэзідэнт Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсій. На форуме выступалі былыя палітвязні, сярод іх старшыня «Руху» Вячаслаў Чарнавіл, старшыня Украінскага «Мемарыяла», дэпутат парламента Лесь Танюк, доктар гістарычных і юрыдычных навук Іван Білас і інш. Упэўнена, што Міжнародны кангрэс-2 паспрыяе і замацаванню культурных сувязяў Беларусі з Украінай. Былыя палітвязні на форуме — людзі неардынарныя, шмат інтэлігенцыі (вучоныя, літаратары, мастакі). Я пазнаёмілася там з украінскай пісьменніцай Верай Франко (унучкай І.Франко), якая адбыла 4 гады ў Ровенсбруку, а пасля 7 гадоў на Калыме. Пазнаёмілася з украінскай паэтэсай і грамадскім дзеячам Атэнай Пашко (жонкай В.Чарнавіла), якая падарыла мне зборнічак сваіх вершаў «Верую». Асноўная тэма паэзіі А.Пашко — любоў да свайго народа, да радзімы, якая паўстае перад чытачом дзяржавай-пакутніцай, замардаванай савецкім генацыдам. Трывога за лёс свайго народа і адказнасць за яго адчуваецца амаль у кожным вершы паэтэсы. (Адзін з іх, напісаны ў пачатку 50-х гадоў, прапаную чытачам у сваім перакладзе.)

**Алена КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВА.**

***Атэна ПАШКО***

*Стогалосыя,*
*сторукія,*
*стоногія*
*Таптлі цябе ўдоўж і ўшыр.*
*Бічавалі цябе на ростанях.*
*Рабавалі, шпурлялі ў вір.*
*Басурманілі мозг,*
*высякалі*
*Думы вольныя з гордых галоў,*
*Раздзіралі цябе й распіналі*
*Вольналюбных тваіх сыноў.*
*А была ты княгіняю,*
*А была ты казачкаю,*
*А рабілі рабыняю,*
*А рабілі батрачкаю...*
*Толькі ты не патурчылася,*
*Толькі не панямечылася,*
*Горды дух волі рыцарскай*
*Захаваўся ў цябе.*
*Але ты паглядзіся*
*У дняпровыя воды,*
*Прыглядзіся, Украінанька,*
*Чым ты стала цяпер...*

Згадкі

# Прызнання не дачакаўся

## *Па кручастых пуцявінах дзеяча ТБШ*

Селянін з бунтарскай натурай і задаткамі палітычнага дзеяча. Чалавек, які змагаўся за сацыяльную справядлівасць, многа думаў і сваіх думак не ўтойваў, гаварыў праўду адкрыта пры любой уладзе. Такім ведалі Вікенція Антонавіча Салыгу не толькі яго землякі з Феліксава і навакольных вёсак, а і шмат хто з жыхароў былых Лідскага і Шчучынскага паветаў. Вось за праўду і справядлівасць і зведаў Вікенцій нямала пакут, як гавораць, і ад белых, і ад чырвоных.

Імя В.Салыгі часта называлася на Лідчыне ў 20—30-х гадах. Мясцовыя сяляне, рабочыя ўспаміналі яго добрым словам. Зусім іншую ацэнку давалі яму польскія ўлады. Для іх Вікенцій Антонавіч быў падбухторшчыкам-бальшавіком, амаль што агентам Масквы. Чаму? Бо ўзначальваў паветовы камітэт Беларускай сялянска-работніцкай грамады — арганізацыі легальнай, згодна з правам зарэгістраванай у дзяржаўных органах. Ды вельмі ж не падабалася ўладам, што Грамада настойліва выступала за нацыянальную роўнасць беларусаў у Рэчы Паспалітай, за навучанне іх дзяцей на роднай мове, за іншыя дэмакратычныя свабоды, за самавызначэнне Заходняй Беларусі.

Пра дзейсную работу В.Салыгі мне ўсхвалявана расказала не так даўно яго былая аднавяскоўка Марыя Іванаўна Дыла, вядомая на Лідчыне збіральніца і захавальніца народных песень і крыху паэтка. Калі Вікенцій Антонавіч, будучы грамадоўскім дзеячам, самаахвярна змагаўся за беларускую справу, маленькая Маня хадзіла ў школу. Але ў дзіцячай памяці назаўсёды засталіся размовы старшага чалавека пра людскую крыўду. Марыя запомніла, як Салыга распаўсюджваў сярод землякоў беларускія кнігі і газеты, разам з іншымі актывістамі наладжваў у вёсках канцэрты і спектаклі. Пастаноўку па п'есе «Зблытжаны Саўка» рыхтавалі і ў Феліксаве. Ды ўмяшалася паліцыя і забараніла яе. Сапраўдным паратункам былі тады кніжкі на роднай мове для Манінага роднага дзядзькі Лаўрэна, які з-за калецтва быў прыкаваны да ложка.

— Я таксама мела непрыемнасць за сваю любоў да матчынай мовы, — прыгадала Марыя Іванаўна. — Неяк на ўроку настаўнік спытаў у вучняў, ці чулі яны пра Янку Купалу, хто ён такі? Спадзеючыся на пахвалу, я сказала, што гэта беларускі паэт. Ой, што тады пачалося ў класе! З вуснаў настаўніка пасыпаліся пытанні: «Адкуль ты гэта ведаеш?», рэплікі: «Ніякай Беларусі няма! То ўсё Крэсы»... Доўга пасля таго я і мае бацькі не мелі спакою. Баяліся ж надта непрыемнасцей ад паліцыі і ўлады.

Мне, журналісту, не раз даводзілася сустракацца і гаварыць з Салыгам. Гэта быў цікавы чалавек. Як узнёсла расказваў ён пра барацьбу працоўных Заходняй Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне! У 1925—27 гг. Грамада была вядомай палітычнай сілай. Забастоўкі ў Лідзе і Бярозаўцы, акцыі ў гонар 1 Траўня, рух за адкрыццё беларускіх школ, за вызваленне палітзняволеных — гэтыя і іншыя клопаты ўваходзілі ў сферу дзейнасці гуртка БРСГ. Пра яе папулярнасць на Лідскай зямлі сведчаць такія лічбы. Паводле некаторых звестак, колькасць сяброў Грамады павялічылася ў павеце за другую палавіну 1926 года ад 148 да 1778. Моцныя грамадоўскія ячэйкі меліся ў Лідзе, вёсках Сяльцы, Шпількі, Ганчары ды іншых.

Грамада ўмела несці свае ідэі ў народ. Для гэтага выкарыстоўваліся розныя метады. Шмат рабілі для пашырэння яе ўплыву гурткі, якіх на Лідчыне было больш за паўсотню. Распаўсюджанай формай работы з'яўляліся выступленні грамадоўскіх дзеячаў перад людзьмі на кірмашах. Тут з простым людам сустракаліся Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Пётр Мятла, Павел Валошын ды іншыя дзеячы нацыянальнага адраджэння. І кожная такая сустрэча бязмежна радавала В.Салыгу. Вікенцій Антонавіч і праз гады высока ацэньваў сваіх паплечнікаў Мікалая Сароку і Канстанціна Чайкоўскага з Ліды, Івана Сідара са Шпількаў, Юльяна Урбана з Сяльца...

Ды над Грамадой збіраліся навальнічныя хмары. У 1927 годзе грамадская арганізацыя была забаронена ўладамі. А неўзабаве яны правялі некалькі судовых працэсаў, каб расправіцца з патрыётамі. У Віленскім акруговым судзе вясною 1928 года адбыўся «працэс-56-ці» над кіраўнікамі і актывістамі Грамады. Сярод абвінавачаемых на гэтым судзілішчы быў і В.Салыга. І хоць уся тая справа была, як кажуць, шыта белымі ніткамі, расправа над грамадоўцамі адбылася. Асуджаныя сустрэлі прысуд мужна, спяваннем грамадоўскага гімна «Ад веку мы спалі...»

Пасля віленскіх Лукішак змагароў за народнае шчасце чакалі не менш жахлівыя астрогі — Вронкі, Равіч, Грудзёндз і іншыя. У перасыльнай турме Варшавы В.Салыга апошні раз бачыўся з Б.Тарашкевічам.

Пасля выхаду з турэмных засценкаў Вікенцій Антонавіч вярнуўся ў родныя мясціны і прадоўжыў святую справу свайго жыцця. Гэтым часам — у шэрагах Таварыства беларускай школы, пакуль яно не было, як раней Грамада, забаронена. А потым наступіў верасень 1939 года. З першых дзён уз'яднання В.Салыга натхнёна ўзяўся усталёўваць новую ўладу. Быў выбраны старшынём Лебядскага валаснога выканкама, дэпутатам Народнага сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку.

Ды пасля радасці неўзабаве наступілі непрыемнасці. Не ўсё, што рабілася, як кажуць, «пры тых Саветах», падабалася Салыгу. І ён не ўтойваў сваёй думкі. А тут знайшліся «дабрадзеі» і падкінулі куды трэба на чалавека «кампрамат». Вясною 1940 года супрацоўнікі Жалудоцкага райаддзела НКУС (тады Феліксава адносілася да Жалудоцкага раёна) арыштавалі Вікенція Антонавіча і адправілі ў Архангельскую вобласць — у лагер ГУЛАГ.

З няволі чалавека вызваліла яго жаданне ваяваць супраць фашызму. Беларусам-заходнікам у Чырвоную Армію ходу не было, таму Салыга падаўся ў фарміруемую ў СССР армію польскага генерала Андэрса. Прайшоў там падрыхтоўку, але на фронт не трапіў. У часе знаходжання ў Іране нашага земляка напаткала злая доля: яго пазнаў былы лідскі «стшэлец». Пасля чаго паследаваў арышт, абвінавачванне ў былой антыпольскай дзейнасці і строгі прысуд. На дарозе ў Палесціну, дзе асуджаны павінен быў адбываць пакаранне, беларус уцякае. Затым ён працаваў у розных месцах Персіі рабочым.

Толькі пасля смерці Сталіна В.Салыга змог вярнуцца на родную зямлю. Праз некаторы час яго рэабілітавалі. Вікенцій Антонавіч (тады яму было пад 60 гадоў) працаваў кавалём у калгасе, потым шмат гадоў правёў у Казлоўшчынскім, Мінойтаўскім, Шчучынскім дамах для састарэлых.

І на схіле жыцця ён не мяняў сваіх перакананняў, не прыстасоўваўся. У Малым Мажэйкаве, гэта побач з Феліксавым, мне расказвалі, як ветэран паставіў у непаслухмянае становішча дырэктара саўгаса.

А было так. Прыйшоў Салыга ў цэнтр гаспадаркі сонечным веранскім ранкам, сустрэў кіраўніка. Прывітаўшыся, павіншаваў таго са святам. Адырэктар пытаецца: «Сёння што, вялікае свята?» У адказ пачулася: «Для мяне вялікае: дзень уз'яднання Беларусі. Не грэх было б і цяпер над канторай вывесіць...»

Вядома, прынцыповасць, незалежны характар не імпанавалі начальству. Гэтым і тлумачыліся пераводы Салыгі з аднаго дома-інтэрната ў другі. Бо кіраўнікам не падабаліся крытычныя нататкі ў газеты, папрокі за непарадкі. Помню, завітаў я да Вікенція Антонавіча ў час яго знаходжання ў Шчучынскім доме састарэлых. Амаль з парога ён папрасіў у мяне адрас Янкі Брыля.

Цяжкія жыццёвыя пуцявіны выпалі на долю дзеяча Грамады і Таварыства беларускай школы. Дастойна жалю, што чалавек, які нямала рабіў для нацыянальнага адраджэння, так і не дачакаўся «светлых дзён».

**Аляксандр ЖАЛКОЎСКІ.**
г.Ліда.

ВУЧЫМСЯ

Практычная стылістыка

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# З гісторыі красамоўства на Беларусі

## Златавусны

*«Сладко бо медвеный сот и добро сахар, обоего ж добрѣе книгий разум».*

**Кірыла ТУРАЎСКІ.**

Бясцэнную культурную каштоўнасць складаюць творы Кірылы Тураўскага — прапаведніка, царкоўнага дзеяча (а быў ён тураўскім епіскапам), выдатнага прамоўцы, які жыў у XII стагоддзі. Дзейнасць гэтага незвычайна адоранага чалавека была накіравана на духоўнае развіццё асобы, узбагачэнне ўнутранага свету людзей, данясенне да іх ідэалаў гуманізму, усведамленне значнасці чалавечага жыцця, абуджэнне самапавагі і спагадлівасці да іншых, далучэнне да хрысціянскіх законаў і маралі. Глыбіня філасофскіх запатрабаванняў, багатае інтэлектуальнае жыццё, унутраная культура, непахісная вера спалучаліся з адукаванасцю, творчымі здольнасцямі, уменнем пераконваць і ўпэўніваць, што ўплывала на станаўленне асобы прамоўцы, яго адметнага індывідуальнага стылю, у якім строгасць і стрыманасць падкрэсліваецца эмацыянальнасцю і эстэтызмам.

Дасканаласць формы выказвання нараджаецца ўнутранай гармоніяй думак і ўяўленняў пра духоўнае жыццё, таму творы Кірылы Тураўскага, напісаныя царкоўнаславянскай мовай, вызначаюцца стылёвай вытанчанасцю, мілагучнасцю, багаццем. Да нашага часу захаваліся восем «Слоў» (урачыстых пропаведзяў, некалькі дыдактычных аповесцяў, каля 30 малітваў. У залежнасці ад мэты і нагоды стварэння тэкстаў прамоўца перадае ў іх розныя пачуцці: у святочных пропаведзях пануе ўзнёсласць і захапленне («Слова на Вялікдзень», «Слова на вербніцу»); у прытчах і аповесцях гучыць спагада, строгасць, памяркоўнасць [«Прытча пра душу і цела (пра сляпога і кульгавага)», «Аповесць пра беларызца і манаства»].

Маральна-эстэтычныя праблемы, пытанні грамадскай значнасці вырашаюцца Кірылам Тураўскім праз духоўны вопыт чалавецтва, перададзены ў Біблії. Таму ў яго творах шмат біблейскіх сюжэтаў, легенд; змест, глыбінны сэнс іх аўтар імкнецца раскрыць як найпаўней і выразней, бо з іх нараджаецца прамова. Як адзначаюць даследнікі (напрыклад, В.Чамярыцкі), Кірыла Тураўскі тонка адчуваў стылістычнае адзінства твора. Ён выкарыстоўваў алегорыі, сімвалы, рытарычныя звароты, разгорнутыя параўнанні, што надзвычай характэрна для ўрачыстага стылю таго часу. Аднак майстэрства прамоўцы выяўляецца ў надзвычайнай чуйнасці да сэнсавай і вобразна-эмацыянальнай напоўненасці любой, кожнай, моўнай адзінкі — слоў, словазлучэнняў, іншых слоўных канструкцый, напрыклад, у стылістычным успрыняцці аднародных радоў.

Аднародныя члены сказа і зараз праходзяць у школе. Іх сінтаксічную функцыю выконваюць звычайна словы пэўнай тэматычнай групы, напрыклад, найменні колераў (белы, жоўты, зялёны), з'яў прыроды (дождж, град, снег), абазначэнні дзеяння (ісці, ехаць, шукаць) і г.д. У якасці аднародных членаў таксама ўжываюцца сінонімы, словы блізкія па значэнню (добры, выдатны, цудоўны), ці антонімы, словы з супрацьлеглым значэннем (добры — благі). Назіраецца і адваротная залежнасць: словы, пастаўленыя ў аднародны рад, набываюць сінанімічныя ці антанімічныя прыкметы. Як бачым, аднародныя члены перадаюць гнуткасць і неабмежаваныя стылістычныя магчымасці мовы, з'яўляюцца крыніцай яе выразнасці, дакладнасці, багацця, эстэтызму.

Кірыла Тураўскі ўжывае аднародныя члены для сцвярджэння найбольш значных, звычайна станоўчага ўспрыняцця, з'яў і рэалій. Стылістычна матываванай, апраўданай з'яўляецца нават колькасць аднародных членаў. Завершанасць, лагічную і вобразную значнасць маюць трохчленныя аднародныя рады, апошняе слова якіх звязана злучнікам і. Яно звычайна найбольш важнае зместам, што падкрэсліваецца лагічным націскам: *«Душа чалавека нятленная, неўміручая і свабодная».* Такое выкарыстанне аднародных членаў мае і цяпер практычнае значэнне. Стылістычную асаблівасць размяшчэння слоў у аднародным радзе неабходна ўлічваць і ставіць у заключную пазіцыю найболш значныя для вашага паведамлення словы.

Двухчленныя аднародныя рады менш выразныя для ўспрыняцця, аднак важна іх колькасная раўналежнасць, сэнсавая раўназначнасць, сіметрыя. Каб вылучыць такія аднародныя члены, Кірыла Тураўскі развівае іх залежнымі словамі, удакладняе тым сэнсавае размежаванне. Працытуем у арыгінале: *«Велика[га] **учителя** и мудра[га] **сказателя**...», «...и **печаль** всю телесную и **страх** сердечный...».*

Даволі шырока ўжывае Кірыла Тураўскі прыём нагнятання аднародных членаў праз іх колькаснае пашырэнне. Пры гэтым яны аб'ядноўваюцца ў лагічныя пары на падставе антанімічных ці ўзаемадапаўняльных адносін. Таксама працытуем у арыгінале: *«...Христос всѣм раздавает дары: благословляет вся крестьяны [хрысціян]: малыя с великыми, нищая с богатыми, рабы с свободными, старьцѣ с уношами [юнакамі], и женимыя с дѣвицями, матери с младенци, сироты с вдовицами».* Пералічэнне гэтага аднароднага рада перадае шматлікасць хрысціян, адметнасць іх сацыяльнай ды іншай прыналежнасці, і разам з тым агульнасць веравызнання, роўнасць духоўную. Як бачым, у аднародны рад не ставяцца члены з часткова агульным значэннем. **Практычная парада:** нельга сказаць, напрыклад, **дзеці і школьнікі,** бо частка дзяцей можа быць школьнікамі. У функцыі аднародных членаў з адносінамі ўзаемадапаўнення можна ўжыць словы **дашкольнікі** і **школьнікі**.

Уключэнне пэўных слоў у аднародныя рады перадае наяўную ці аўтарскую, уяўную ўзаемазалежнасць, суадноснасць паняццяў, з'яў, рэалій, што дазваляе глыбей пранікнуць у вобразны змест твора, спасцігнуць задуму аўтара, яго стаўленне да акрэсленых тэм і праблем.

Творы Кірылы Тураўскага паводле глыбіні зместу і дасканаласці формы некалькі стагоддзяў былі ўзорнымі, друкаваліся як прыклады майстэрскага валодання словам у зборніках XVI, XVII стагоддзяў, перавыдаваліся ў XIX стагоддзі. Яны і зараз уважліваму і дапытліваму чытачу адкрываюць шмат сакрэтаў бездакорнага творчага валодання мовай, дзеля ўдасканалення асобы.

ACADEMIA «NS»

Гісторыя моваў на Беларусі

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Беларуская мова

*(Працяг.)*

***«Гэтыя гутаркі сфармаваліся і да гэтага часу захаваліся ў тых раёнах, дзе ў старыя часы існавалі моцныя цэхавыя арганізацыі — шавецкія, кравецкія, шапавальскія, ганчарскія і інш.»***

**Ісак Сербаў.**

## У вузкім коле хаўруснікаў
## (Сацыяльныя дыялекты)

**Катрушніцкі лемезень** — умоўная мова дрыбінскіх шапавалаў (майстроў па вытворчасці вырабаў з воўны шляхам валення, катання галаўных убораў, валёнак, лямцу). Была пашырана ў мястэчку Дрыбін Чавускага павета. Носьбіты гэтага моўнага ўтварэння карысталіся ім па-за домам, у час заняткаў адыходніцкім промыслам, з мэтай скрыць ад староннія і захаваць ад скажэння свае вытворча-прафесійныя сакрэты (майстры займаліся сваім рамяством, пераходзячы з хаты ў хату, з вёскі ў вёску). Часам катрушніцкі лемезень не ведалі нават члены сямей рамеснікаў-шапавалаў. Гэта быў даволі развіты ў лексічных адносінах сродак зносінаў. Паводле запісаў Еўдакіма Раманава, беларускага этнографа, фалькларыста, археолага, які вывучаў катрушніцкі лемезень, лексічны склад апошняга налічваў каля 915 слоў і ахопліваў 13 паняційных групаў. Большасць паняццяў выражаліся агульнаўжывальнымі беларускімі словамі, зацемненымі спецыфічнымі ўстаўкамі-прыстаўкамі: *«**ку-**» (куград, кулуг, куцэгла), «**шу-**» (шурака, шукума, шупіла), «**бе-**» (**беяго, беяе**);* а таксама вузкадыялектнымі словамі *(«**писарить**» — пісаць, «**морщик**» — нос).* Асобныя словы ўтвараліся шляхам перастаноўкі складоў *(«**лосома**» — салома).* Ужываліся словы іншамоўнага паходжання (з грэц. *«**лыкус**» — воўк,* з украінск. *«**гербатень**» — гусак*). Асновы слоў маглі быць невытворнымі *(«**сван**» — сват, «**хаз**» — двор)* і вытворнымі *(«**сиворка**» — зіма, «**псалить**» — спяваць).* Словазлучэнні і сказы ўтвараліся па ўзору агульнанароднай мовы, за кошт сінтаксічных сродкаў апошняй, напрыклад: ***«гурь маньку хавбовъ»*** (вымаўляецца ***«гур маньку хаўбоў»***) — *дай мне грошай.* Фальклорных твораў на катрушніцкім лемезні, як і на іншых умоўных мовах, не зарэгістравана. Гэта тлумачыцца функцыяй дадзенага моўнага ўтварэння як выключна дапаможнага сродку зносін, у той час як асноўную функцыянальную нагрузку неслі на сабе іншыя формы агульнанароднай мовы — народна-гутарковая, прастамоўе, тэрытарыяльны дыялект.

**Парушніцкі лемез** — умоўная мова шклоўскіх шаўцоў і шапавалаў. Функцыянаваў у мястэчку Шклоў Магілёўскага павета. Па лексічнаму багаццю блізкі да катрушніцкага лемезня. Лексічны склад яго, паводле запісаў Еўдакіма Раманава, налічвае 651 слова і ахоплівае 13 паняційных груп. Большасць паняццяў абазначаліся агульнаўжывальнымі беларускімі словамі, зацемненымі ўстаўкамі-прыстаўкамі *«**ку-**» («**кувесна**» — вясна, «**куболото**» — балота), «**шу-**» («**шугора**» — гара),* суфіксамі *«**-он**» («**сватон**» — сват, «**грехон**» — грэх), «**-ош**» («**дымош**» — дым, «**писарош**» — пісар), «**-ник**» («**лабушник**» — **музыкант**, «**кувезник**» — каваль).* Большасць прыметнікаў утворана пры дапамозе суфіксаў *«**-имн-**», «**-омн-**» («**горкомный**» — горкі, «**худимный**» — худы).* З назваў дзён тыдня зарэгістравана толькі субота (*«**субантюк**»*) і нядзеля (*«**дэушница**»*). Адным словам маглі перадавацца некалькі паняццяў *(«**сивор**» — снег, лёд, град, мароз, мяцеліца).* Невялікая колькасць слоў маюць іншамоўнае паходжанне: (з грэц. *«**кресо**» — мяса;* з лац. *«**дэус**» — сонца, бог;* з татарск. *«**басать**» — рэзаць*). Частка слоў уяўляюць сабой вузкія дыялектызмы *(«**лох**» — мужык).* У лексіцы 168 слоў агульныя з катрушніцкім лемезнем (што сведчыць пра агульнасць паходжання). Граматыка і сінтаксіс парушніцкага лемезу — беларускія (напр. ***«угуръ чузу ховбовъ»** — дай мне грошай, **«чузовский збрагъ химаеть»** — мой брат хварэе*). Фальклорных твораў на парушніцкім лемезні па выкладзеных вышэй прычынах не зафіксавана. У наш час вывучэннем і апісаннем разгледжаных у гэтым артыкуле ўмоўных моў займалася мовазнаўца Ганна Усціновіч.

**Адверніцкая гаворка, адверніца.** Хто з нас у дзяцінстве не выпрабоўваў адзін другога на кемлівасць, прапаноўваючы расшыфроўваць перавернутыя рознымі спосабамі словы. Заўважым, што ад дзеяслова «вярнуць» паходзіць і назва ўтворанай такім чынам мовы «адверніца». Так утвараліся цэлыя лексічныя сістэмы — дзіцячыя ўмоўныя мовы, якімі іх стваральнікі і носьбіты карысталіся з мэтай скрыць ад дарослых свае дзіцячыя таямніцы. Класічная адверніца была пашырана на ўсёй усходнеславянскай тэрыторыі. Носьбітамі яе былі гандляры, рамеснікі, казакі, жабракі. Ад іншых умоўных моў (катрушніцкага лемезня, любецкага лемента, парушніцкага лемеза, выцірняцкага гаўрыдніка і інш.) адрозніваецца больш простай граматычнай будовай. Той спосаб словаўтварэння (выкарыстанне агульнаўжывальных слоў, сэнс якіх зацямняецца рознага роду маскіровачнымі элементамі), які ў іншых умоўных мовах выступае як **дапаможны**, у адверніцы з'яўляецца **адзіным**. Вельмі пашыраны прыём, калі слова разбіваецца на склады, да кожнага з якіх дадаецца адзін і той жа маскіровачны элемент *«**-фер-**» («**ферваферда**» — вада).* Часам у маскіровачным элеменце паўтараюцца галосныя зацямняемага складу, напрыклад: ***«якахва букухвудукухву докохвомакахва»** — я буду дома* (запісана ад Зінаіды і Івана Красоўскіх, вёска Прылессе Менскага раёна). Як і іншыя ўмоўныя мовы, адверніцкая гаворка мае даўнюю гісторыю. Самае першае ўпамінанне аб ёй адносіцца да пачатку XVII ст. Галандскі падарожнік І.Маса ў сваіх запісах адзначае, што чуў яе ад казакаў — удзельнікаў паўстання пад кіраўніцтвам Івана Балотнікава, сярод якіх былі, як вядома, і беларусы. Як больш простая па будове, адверніцкая гаворка з цягам часу выцесніла з ужытку некаторыя іншыя ўмоўныя мовы. Прычына адмірання ўмоўных моў — страта сацыяльнай базы.

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПІШЧА́ЦЬ** (рабіць, утвараць тонкі, высокі гук, піск) *Пішчалі шустрыя маладыя шпачкі* (Сачанка), **ПІ́СКАЦЬ** размоўнае *І басяць, і тэнараць, і піскаюць Атамныя галасы* (Панчанка), **ПІСКЛЯ́ВІЦЬ** разм. *У тумане пісклявіла качаня, адбіўшыся ад маткі* (Пташнікаў), **ВЕРАШЧА́ЦЬ** (пішчаць віскліва, з пералівамі) *На фурманках парасяты ў мяшках верашчаць, кудахчуць куры ў кошыках* (Галавач), **ВІШЧА́ЦЬ** *Хаўруснікі Шупіка вішчалі, свісталі, пераскоквалі цераз Цімошку, сыпалі яму за каўнер пясок* (Хомчанка).

**ПЛАДАВІ́ТЫ** (які хутка размнажаецца, нараджае вялікае патомства) *Трусы вельмі пладавітыя,* **ПЛО́ДНЫ** *Тут чэрці былі вельмі плодныя, але Паляшук перахітрыў і чорта* («Беларускія народныя казкі»)

**Пладавіты.**

У адпаведным сінанімічным радзе ў англійшчыне знаходзім тры прыметнікі: **prolific, fruitful, fecund**. Апошні з іх з'яўляецца кніжным. Другі — **fruitful** у сучаснай мове губляе гэты сэнс, але захоўвае пераноснае значэнне. Варта дадаць, што ўсе тры словы ў той ці іншай ступені запазычаныя з іншых моваў: **prolific** з лаціны, **fecund** з французскай, а прыметнік **fruitful** быў утвораны шляхам дабаўлення да франц. кораня англ. суфікса **-ful**.

**ПЛА́КАЦЬ** (утвараць плач, заходзіцца плачам) **СЛЯЗІ́ЦЦА** дыялектнае *Удзень яна [Маня] гаварыла мала: толькі слязілася часам і смаркалася* (Мележ), **РЫДА́ЦЬ** (моцна і громка плакаць) *Арына не гаварыла нічога. Толькі рыдала, горка, уголас, па-жаночы* (Мележ), **ГАЛАСІ́ЦЬ** (плакаць голасна, прыгаворваючы), **ПРЫЧЫТА́ЦЬ** і **ПРЫЧЫ́ТВАЦЬ** (плакаць, прыгаворваючы словы жальбы), **РАЎЦІ́** разм. (плакаць, суправаджаючы плач гучным голасам), **ВЫЦЬ** разм., узмацн. *Ішла я наперадзе ў паліцая, не плакала — выла на ўвесь лес, усё яшчэ спадзеючыся разжаліць яго* (Шамякін), **КРЫЧА́ЦЬ** (голасна плакаць, раўці; звычайна пра малых дзяцей) *Я плачу, Я з горкага гора крычу* (Астрэйка), **ЛЯМАНТАВА́ЦЬ** (галасіць, моцна, гучна плакаць), **РУ́МЗАЦЬ** разм. (плакаць перарывіста і надакучліва), **СКУГО́ЛІЦЬ** разм. (плакаць, утвараючы ціхія, жаласныя гукі) *Адзяўчынка скуголіць і скуголіць, быццам сваім плачам хоча перамагчы завею* (Асіпенка), **СКАВЫТА́ЦЬ** разм., зневаж. *Раз-пораз праз натоўп віхуры гналі Двухногіх нейкіх, тоўстых і худых, якія скавыталі і стагналі Аб літасці на розныя лады* (Караткевіч), **ХНЫ́КАЦЬ** (перарывіста жаласна плакаць утвараючы насавыя гукі) *Лена́чка крывіла губкі, хныкала, але зноў цэлілася на калені* (Дуброўскі), **ХЛІ́ПАЦЬ** разм. (плакаць ціха, усхліпваючы) *[Маці] толькі сутаргава хліпала, выціраючы вочы вялікімі патрэсканымі пальцамі* (Мележ), **ХЛІПАТА́ЦЬ** разм. *Печку падпёршы схудалым плячом, Маці паціху хліпоча* (Купала), **ХЛЮ́ПАЦЬ** разм. *Няма чаго хлюпаць насамі, «пахавальная каманда»...* (Васілевіч), **ХЛІ́МКАЦЬ** разм. *А чаго ж ёй хлімкаць ды слязьмі душыцца — не прыжыўся ж зялёны дубок* (Гроднеў), **УСХЛІ́ПВАЦЬ** (плакаць ціха, сутаргава ўдыхаючы паветра) *Хлапец яшчэ плакаў слабенькім ахрыплым галаском, а дзяўчо толькі ўсхліпвала зрэдку ды трэслася ўсім целам* (Крапіва), **СЛІ́НІЦЦА** разм. (плакаць ціха, пускаючы сліну) — *Ты слінішся, як жанчына, — з папрокам сказаў Іліко* (Самуйлёнак), **ПІШЧА́ЦЬ** разм. (плакаць тонкім голасам) *У калысцы пішчала малое,* **ВЕРАШЧА́ЦЬ** разм. (плакаць віскліва, надта гучна; звычайна пра грудных дзяцей) *Прынясе, бывае, цётка сваё малое, а яно, спавітае, верашчыць, аж заходзіцца* (Паўлаў), **ВІШЧА́ЦЬ** разм. (плакаць вельмі гучна, з віскатам) *Жанчына падлятае да няшчаснага, падае на калені, выпускае пакецікі, істэрычна вішчыць* (Карпюк), **ЦЯГНУ́ЦЬ** разм. (плакаць працяжна, жаласліва і надакучліва) *Самая меншая з дзяцей, трохгадовая Аня, часта плакала. Цягнула тоненька, жаласліва* (Арабей), **НЮ́НІЦЬ** разм., пагард. (нягучна надакучліва плакаць, ныючы, скардзячыся) — *Які ты кволы, — сумна сказаў Светлячок. — Я, калі парэжуся або паб'юся, стараюся ні за што не нюніць* («Звязда»), **НЮ́НЬКАЦЬ** разм., пагард. — *Перастань ты нюнькаць. — кажа [маці сыну], — бо Каюк ідзе з абозам. Ён табе твой плач пакажа: вострай шабляй вытра слёзы* (Дубоўка), **РАСПУСКА́ЦЬ НЮ́НІ** разм., неадабр. (пачынаць нягучна, надакучліва плакаць або ўвогуле нягучна надакучліва плакаць), **ПУСКА́ЦЬ СЛЯЗУ́** (або **СЛЁЗЫ**) разм., **ПАКА́ЗВАЦЬ СЛЁЗЫ** разм., **РАЗВО́ДЗІЦЬ СЫ́РАСЦЬ** разм., неадабр., **ЛІЦЬ** (або **ПРАЛІВА́ЦЬ**) **СЛЁЗЫ, ВЫЦІСКА́ЦЬ СЛЯЗУ́** (або **СЛЁЗЫ**) разм., іран., (плакаць для паказу, цераз сілу, з намаганнем), **АБЛІВА́ЦЦА** (або **ЗАЛІВА́ЦЦА**) **СЛЯЗА́МІ** (або **СЛЯЗЬМІ́**) разм. (плакаць горка, няўцешна), **УМЫВА́ЦЦА СЛЯЗА́МІ** (або **СЛЯЗЬМІ́, СЛЯЗО́Й**) разм., **БЯРО́ЗАЮ ЛІ́ЦЦА** разм. (горка плакаць) *Мужчына, — а каб бачылі, як ён ды, бедны, бярозаю ліўся, як дзетак страцілі? Пабілі ўсю сямейку. Дык плакаў плачам* (Янкоўскі), **ВАЧЭ́Й НЕ АСУ́ШВАЦЬ** разм. (плакаць несуцешна і часта), **ПЕЦЬ РЭ́ПКУ** разм. (галасіць ад роспачы, адчаю) *Засне ён [Ігналь]. Ці ты над ім рэпку пей, ці з гарматы над вухам страляй — ўсё адно не прачнецца* (Калюга), **ВЫ́ПЛАКАЦЬ** (або **ПРАПЛА́КАЦЬ**) **ВО́ЧЫ** (або **УСЕ́ ВО́ЧЫ**) разм. (ужыв. пераважна ў закончаным трыванні; плакаць вельмі многа і часта). *Чатыры хаціны З тугою жаночай Прагледзелі вочы, праплакалі вочы...* (Панчанка), **РО́ЎМА** (або **РО́ВАМ**) **РАЎЦІ́** разм., узмацн. (плакаць моцна, гучна) *Што не купіла балетак, дык [дачка] ровам раўла* (Янкоўскі), **НЕ́МА РАЎЦІ́** разм., узмацн. (плакаць дзікім, роспачным голасам) *Алену прывезлі дадому апаўдні з напухлай нагою. Дзяўчына нема раўла, злякаўшыся* (Кухараў).

**Плакаць.**

Гэты надзвычай багаты бел. сінанімічны рад у англійскай мове выглядае значна бядней: **cry, weep, sob, snivel, whimper, blubber**. Першы з дзеясловаў — **cry** з'яўляецца найбольш ужывальным. **Weep** — больш кніжнае слова — азначае 'плакаць працягла і ціха'. **Sob** бліжэй да бел. **рыдаць**. **Whimper** і **snivel** можна параўнаць з бел. **хныкаць, скуголіць**. **Blubber** у адрозненне ад папярэдніх азначае 'плакаць вельмі гучна' і таму яго можна параўнаць з бел. **раўці**.

Акрамя простых дзеясловаў да дадзенага сінанімічнага раду можна далучыць спалучэнні з назоўнікам **tears** («слёзы»): **to be in tears, tears roll (run) stream down somebody's cheeks**.

# Асцярожней з лацінкай!

Хачу далучыцца да размовы аб беларускай лацінцы. Лацініца дасканалейшая за кірыліцу? Не зусім. Першыя помнікі лацінкі — з VII стагоддзя да н.э., і толькі ў IX стагоддзі н.э. (праз 16 стагоддзяў) закончылася яе графічная эвалюцыя (гл. Энцыклапедыя беларускай мовы). А кірыліца была створана ў IX стагоддзі і мела літары для ўсіх гукаў славянскай мовы.

Лацінцы заўжды не ставала літар, яна заўжды папаўнялася. Нарэшце для гукаў лацінскай мовы былі створаны ўсе літары, але іх не хапіла для іншых моў. І для гукаў гэтых моў ствараліся спалучэнні з двух, трох і часам чатырох літар. Або над ці пад літарай ставілі розныя знакі.

Тым не менш лацінка няздольная да перадачы мноства гукаў у славянскіх мовах. Горш таго, кожны народ удасканальваў лацінку па-свойму і адно спалучэнне ці літара са значком у розных мовах не адназначныя. У мовах з лацінкай адзін гук можна напісаць, а літару — прачытаць па-рознаму. Кожны ведае, якія цяжкія для засваення англійская, французская мовы. У словах гэтых моў шмат літар, але чытаюцца толькі некалькі з іх. У розных краінах пайшлі сваім шляхам.

Так, раней у кірыліцы было больш літар. Адны з іх капіравалі грэцкія літары, другія — абазначалі асобныя гукі. Але пасля яны ўпадобіліся да іншых гукаў, і для іх выбіралі часцей ужываную літару. Або гук знікаў, і літару для яго пераставалі ўжываць (ъ). Або літара абазначала спалучэнне гукаў, і яе замянілі на спалучэнне літар для іх. Але і ў лацінцы не без гэтага. Ролю лішніх літар іграюць літары са значкамі ці іх спалучэнні. Гукі, для якіх яны створаныя, таксама наблізіліся да іншых, абазначаюць спалучэнні гукаў ці зніклі. Але, у адрозненне ад кірыліцы, яны існуюць у розных мовах дагэтуль.

У лацінцы няма сродкаў абазначэння мяккасці зычных. Для раздзялення цвёрдага і мяккага зычных прыдумалі пяць новых літар. Тым часам у кірыліцы заўжды хапала адной «ь».

Аўтар «Нашага слова» Язэп Станапановіч лічыць «спрэчным» літары ю, я, е, ё. Але гэтая ўмоўнасць ні ў кога не выклікае высілкаў. (Праўда, як выключэнне, гэтыя літары пасля «ў» трэба пісаць без апострафа. У гэтым часам памыляюцца, але такая складанасць уласцівая толькі беларускай мове, а не кірыліцы наогул.) Тым часам у лацінцы «спрэчнасцяў» не менш. Чаму слова «мяч» трэба пісаць як «міач» (miač)? І ці не лагічней «неба» пісаць не як «ніэба» (nieba), а як «ньэба» (ńeba)? І чаму «мёд» мы пішам як «міод» (miod), але «лёд» не як «ліод» (liod), а як «льод» (lod)? Гэтыя правілы не менш «спрэчныя»!

І што з таго, што «ы» — двухзначная літара? Каму ад гэтага было дрэнна? Праўда, «ы» можна зблытаць з «ьі», калі «і» без кропкі. Але ж не ў кожнай мове з кірыліцай ёсць «ы» разам з «і». У старабеларускай мове, дарэчы, пераважала літара «и». Да таго ж, першапачаткова «ы» выглядала як «ьі», і адрадзіць гэта прасцей, чым мяняць «і» на «и» ці кірыліцу на лацінку. А найлепш «і» проста заўжды пісаць з кропкай.

Не толькі кірыліца мела складаныя формы літар — лацінка мела гатычныя літары, і іх спрасцілі дзеля хуткага пісьма.

Кірыліца спрасцілася пазней за лацінку, бо пазней і ўзнікла. Зусім натуральна, што для яе спрашчэння браўся досвед народаў з лацінкай, пагатоў абодва алфавіты маюць агульныя карані.

Такім чынам, кірыліца нічым не горшая, а можа і лепшая за лацінку. Зрэшты, пасля ўсіх гімнаў лацінцы яе прапагандысты самі пагаджаюцца, што яе трэба ўдасканаліць.

Недарэчнасць, калі кажуць, што лацінская і праславянская мовы з іх алфавітамі — адгалінаванні праіндаеўрапейскай мовы. Мова і алфавіт — розныя рэчы. Мова развіваецца, а алфавіт развіваюць. Ад адной мовы могуць паходзіць іншыя мовы, а ад аднаго алфавіта — іншыя алфавіты. Але нельга лічыць, што мова і алфавіт развіваюцца па адных законах. На самай справе лацінка і кірыліца — адгалінаванні грэцкага алфавіта.

Я.Стапановіч, паміж іншым, памыляецца, калі лічыць дасканаласцю лацінкі прычыну таго, што на ёй піша большасць народаў Еўропы. Хоць у пачатку артыкула ён сам называе сапраўдную прычыну, паўтару яе.

У Рымскай імперыі зарадзілася хрысціянства. Пазней яна падзялілася на Рымскую імперыю і Візантыю (дзе запанавала не лацінская, а грэцкая культура). Кожная пашырала хрысціянства паводле свайго абраду і на сваіх мовах. Першая — па-лацінску, другая — па-грэцку, але дапускала і мясцовыя мовы.

У IX стагоддзі князь Вялікамараўскай дзяржавы праз паслоў папрасіў імператара Візантыі прыслаць місіянераў. Іх мэтай было пашырэнне хрысціянства па-стараславянску, бо жыхары дзяржавы не разумелі лацінскай мовы ў цэрквах з рымскім абрадам. Кірыл і Мяфодзій прыехалі ў Маравію і стварылі славянскі алфавіт, навукоўцы лічаць — спярша глаголіцу.

Балгарская дзяржава мела шчыльныя сувязі з Візантыяй і грэцкі абрад хрысціянства. Таму славянскае пісьмо там наблізілі да грэцкага — стварылі кірыліцу. У Балгарскую дзяржаву ўваходзіла Сербія і іншыя землі, таму кірыліца пашыралася і там. Калі ў X стагоддзі землі Кіеўскай Русі хрысціліся паводле грэцкага абраду, то перанялі яе. Польшча ў X стагоддзі хрысцілася паводле рымскага абраду з лацінскай мовай і лацінкай, як і астатнія краіны з рымскім абрадам.

На землях Вялікамараўскай дзяржавы ў цэрквах побач са славянскай ужывалася лацінская мова. Таму побач з глаголіцай ужывалася лацінка. Пэўна, праз сваю складанасць глаголіца была выцеснена лацінкай. (Тым не менш у Харватыі ўпарадкаваць ужыванне лацінкі не атрымалася да XIX стагоддзя, а глаголіца існавала да 1905 г.). На землях Балгарскай дзяржавы дасканалейшая кірыліца выцесніла глаголіцу. Там жа, дзе была толькі кірыліца (землі Кіеўскай Русі) ці толькі лацінка (Заходняя Еўропа, Польшча), нішто нічога не выцесніла.

Паміж сабой канкуравалі не дасканаласці кірыліцы і лацінкі. Інačай усе, а пагатоў — славяне, узялі б менавіта кірыліцу. Канкуравалі:

1) Рымскае духавенства з візантыйскім;

2) Дасканаласці глаголіцы і бліжэйшага алфавіта (хто ведае — калі б не складанасць глаголіцы, зараз на ёй пісалі б, напрыклад, Чэхія і Харватыя, бо ў той жа Харватыі яе ўжывалі нават у справаводстве).

Я.Стапановіч ставіць у прыклад краіны Еўропы, у тым ліку славянскія. Але ж мы маем сваю, адрозную ад іхняй, гісторыю. І які б алфавіт ні быў найдасканалым, яны застануцца пры лацінцы. А балгары, сербы, украінцы, расійцы — пры кірыліцы, колькі б мала народаў яе ні ўжывалі. Бо і тыя, і другія паважаюць сваю гісторыю і, у адрозненне ад некаторых беларусаў, не мяняюць яе ні на што.

Але Я.Стапановіч згадаў яшчэ неэўрапейскія народы. Якія?

1) Беспісьменныя народы.

У асноўным — афрыканцы. Чаму ў іх лацініца? Яна дасканалая, кажа Я.Стапановіч. А чаму чукчы і да т.п. пішуць кірыліцай?

Рэч у тым, што для беспісьменных народаў ні з кірыліцай, ні з лацінкай не звязана іх гісторыя і абедзве простыя. Таму яны кіруюцца прынцыпам: **браць алфавіт народа, з якім трэба мець шчыльныя кантакты.** Афрыканцы маюць свае краіны і хочуць кантактаваць з развітымі краінамі, каб самім стаць развітымі. А ў іх пішуць лацінкай. Чукчы і да т.п. — у складзе Расіі, і ім трэба кантактаваць з уладарамі-расійцамі. Тыя пішуць кірыліцай. Абхазцы не мелі пісьменнасці і прынялі кірыліцу. Потым лацінку, потым «грузініцу», потым зноў кірыліцу. Што ж найдасканалае?

2) Народы з арабскім пісьмом.

Так, але чаму, калі лацінка дасканалая, яе не ўзялі арабы? Цытую «Краткую Литературную Энциклопедию»: «Будучы прыдатным для арабскай мовы... арабскае пісьмо нязручнае для моў іншага тыпу. Таму многія народы перайшлі на лацінку... ці на расійскую (г.зн. кірыліцу — В.С.) графіку...» У гэтых народаў нічога не звязана з абодвума алфавітамі, таму ў выбары яны кіруюцца вышэйзгаданым прынцыпам. Чаму Азербайджан у СССР пісаў кірыліцай і толькі ў яго канцы «зразумеў» яе «недасканаласць»?

Аўтар Я.Стапановіч чамусьці не напісаў, што грузіны засталіся пры «грузініцы», армяне — «пры армяніцы», а славяне, што пісалі кірыліцай і раней — пры кірыліцы. Ён параўноўвае нас з афрыканцамі і мусульманамі і даводзіць, што калі лацінка прасцейшая за арабіцу, то прасцейшая і за ўсё астатняе.

У X стагоддзі мы прынялі грэцкі абрад хрысціянства і рэлігійныя кнігі на славянскай мове на кірыліцы. Гэтая мова была дзяржаўнай у Кіеўскай Русі і гучала ў цэрквах. Вось таму беларусы і пачалі пісаць на кірыліцы. Біблії, Евангеллі, летапісы, граматыкі, слоўнікі, свецкія аповесці, Літоўская Метрыка — на кірыліцы. Паспрабуйце ўспомніць твор часоў Вялікага Княства Літоўскага па-беларуску, але на лацініцы — нічога не ўспомніце. Праўда, Я.Стапановіч паспрабаваў назваць адзін твор: «Казанні Кірыла» С.Зізанія (Вільня, 1596). Але і тут памыліўся — ён браў гэтыя звесткі з ЭБМ і сказіў змест. Цытую: «Лацінка ўжывалася побач з кірыліцай і ў друкаваных кнігах рэлігійных жанраў, напрыклад, у «Казанні Кірылы»., дзе паралельна з беларускім змешчаны польскі тэкст». Трэба чытаць да канца! Мелася на ўвазе, што лацінка польскай мовы ўжывалася побач з кірыліцай беларускай мовы.

Ды і не магло тады быць, каб беларусы чамусьці ўзялі іншы алфавіт. Нават Статут патрабаваў: «А пісар земскі маець па-руску літарамі і словы рускімі... пісаць».

Лацінская мова не была перадумовай узнікнення беларускай лацінкі. Чаму і на Украіне не ўзнікла лацінка, калі б гэта было так? Можа, Я.Стапановіч лічыць так, бо прачытаў ЭБМ, дзе напісана: «...лацінка пацясняе кірыліцу, паколькі юрыдычныя дакументы або іх асноўныя палажэнні ўсё часцей пісаліся па-польску ці па-лацінску?» Але гэта значыць, што пацясніла наогул, а не ў беларускай мове. І далей напісана: «У XVIII—XIX стст. лацінская мова страціла сваё значэнне, але лацінскі алфавіт працягваў ужывацца найперш у польскамоўным пісьменстве. У XVIII стагоддзі ён выкарыстоўваўся ў некаторых творах на беларускай мове» (ЭБМ). У XVII стагоддзі беларуская мова выцяснялася польскай, і ў 1696 г. было забаронена яе ўжыванне. Беларуская мова занянала і засталася ў непісьменных нізоў, бо вярхі пераходзілі на польскую. І калі пісьменныя вярхі пісалі па-беларуску, то на польскай лацінцы, якой іх вучылі. «Мужыцкая праўда» Каліноўскага, «Дудка беларуская» Багушэвіча і інш. — на польскай лацінцы. Толькі недзе на пачатку XX стагоддзя з'явіліся č, š, ž, v, але засталіся польскія «сн» і «ł», правілы пазначэння мяккасці зычных.

Дапусцім, мы застанёмся пры кірыліцы. Беларусы будуць ганарыцца, што беларус Скарына — першадрукар на кірыліцы, што яго вучні Іван Хведаровіч і Пятро Мсціславец заснавалі кнігадрукаванне ў Маскве, што «Буквар» С.Собаля быў вядомы беларусам, расійцам і іншым народам, што беларусы стварылі літары «э» (яе ўзялі расійцы) і «й» (узялі расійцы, украінцы, балгары); што беларус Капіевіч стварыў свецкія (а не «грамадзянскія» — гл. «Гісторыю беларускага языка». Я.Станкевіч, Вільня, 1939) літары, якія Пётр І увёў у сваёй дзяржаве і якімі карыстаюцца многія народы (і не толькі славяне). Беларусы будуць ганарыцца кірыліцай і зразумеюць, што лацінка — вынік нашага колішняга заняпаду і чужынскага панавання.

А як мы будзем жыць з лацінкай? Можа, беларусам тлумачыць, што да XVIII стагоддзя панаваў расійскі ўплыў? Ці што Сапега і Цяпінскі былі «азіятамі» ў параўнанні з еўрапейцамі Багушэвічам і Цёткай? Які гонар будзе ў беларусаў, калі яны будуць ведаць, што на лацінцы па-беларуску ніхто не пісаў да XVIII стагоддзя, а на цяперашнім яе варыянце (асобным ад польскага) — да XX стагоддзя? Больш таго — калісь яны даведаюцца, што на «цяперашнім» варыянце ніхто не пісаў да XXI стагоддзя, бо Я.Стапановіч, Ул. Туняк (гл. № 23 «Нашага слова») і іх аднадумцы так «перакарэктоўваюць» лацінку, што яе б не пазналі тыя, што пісалі на ёй усур'ёз і заўжды (тыя ж беларусы Віленшчыны), а не проста забаўляліся. Расійскія шавіністы скажуць: Скарына і Будны — расійцы, бо беларусы не пішуць кірыліцай. Польскія скажуць — беларусы — галіна польскага народа, бо іх алфавіт паходзіць проста з польскага. Расійскія падсумуюць: беларусы — гэта апалячаныя расійцы.

З дапамогай кірыліцы мы ўплывалі на расійцаў, а цяпер схаваемся ад іх за лацінкай? Лепш з вышыні кірыліцы глядзець на расійцаў, помнячы аб былой велічы (і імкнучыся яе аднавіць).

Кажуць: з ёй мы станем цывілізаванымі («еўрапейскімі»). Але чаму афрыканцы жывуць яшчэ горш за нас, хоць і маюць лацінку? І хіба ў XIX стагоддзі беларусы-лацінпікі жылі лепш за беларусаў-кірылічнікаў? Хіба Скарына не атрымаў еўрапейскую адукацыю? Хіба Японія з яе іерогліфамі — не высокаразвітая краіна? Наўрад ці растлумачыць нехта, як дабрабыт людзей, якасць тавараў і культурнасць грамадства залежаць ад формы літар. Кажуць: яна спыніць русіфікацыю. Як? Большасць беларусаў ужо зрусіфікаваная! Трэба не «спыняць русіфікацыю», а «наступаць беларусізацыяй». А як гэтаму дапаможа лацінка? Несвядомыя беларусы з высілкамі чытаюць па-беларуску і на вядомай ім кірыліцы. Лацінку ж ведаюць нават не ўсе свядомыя, і, увеўшы яе, мы толькі замарудзім (ці спынім) Адраджэнне, бо людзям будзе шмат цяжэй вяртацца да роднай мовы.

Кажуць: з ёй мы адасобімся ад расійцаў. Так, але не толькі ад іх, але і ад продкаў-ліцвінаў. А наблізімся да палякаў — ці гэта не важна? **Трэба не «адасабляцца ад расійцаў», а адраджаць нашыя традыцыі** — гэта розныя рэчы. З расійцамі абавязкова будзе нешта агульнае — на гэта яны маюць праў́ не больш за нас (кірыліцу стварылі балгары) або гэта ад нас і пераняні (літары «э»... «й» «гражданка» Капіевіча). І няўжо мы не асобныя ад іх з кірыліцай, як не асобныя балгары ці ўкраінцы.

Калі мы патрыёты, то павінны клапаціцца аб Адраджэнні нашых традыцый, а не аб лішняй клавіятуры кампутараў ці аб тым, як іншаземцам лягчэй чытаць нашыя словы. Але калі нехта ганіць свае традыцыі і хваліць чужыя і жадае памяняць алфавіт, каб лягчэй было чытаць надпісы на замежных шакаладках, жуйках і напоях і не трэба было перакладаць іх на родную мову з яе алфавітам — тут ужо нешта хутчэй ад касмапалітызму. Наадварот, кожны патрыёт павінен імкнуцца, каб ягоная дзяржава зрабілася настолькі моцнай і развітай, каб іншыя народы захапляліся яе мовай і алфавітам.

Кірыліца — сімвал росквіту і велічы нашай старажытнай дзяржавы і мовы, «залатога веку». Кірыліца — гэта беларускасць!

**Віталь СТАНІШЭЎСКІ.**

# Заслаўю — 1010 гадоў



Шмат хто з гісторыкаў перакананы, што горад Заслаўе (летапісны Ізяслаўль) узнік у 985 годзе. Так лічыў і вядомы М.М.Карамзін, які, відаць, чытаў Полацкі летапіс, што пасля быў страчаны. Яго заснаванне звязваюць з замахам полацкай князёўны Рагнеды на жыццё кіеўскага князя Уладзіміра. Менавіта ён — праз заступніцтва за маці княжыча Ізяслава, сына Рагнеды і Уладзіміра — не пакараў смерцю жонку, а выслаў яе з сынам на Бацькаўшчыну, дзе, каля Менеска, пабудаваў горад, які і назваў Ізяслаўль — у гонар сына.

Паводле мясцовых паданняў Рагнеда і Ізяслаў жылі ў замку, які быў размешчаны ў сутоку Свіслачы ды рэчкі Княгінькі. Назву сваю гэта рэчка, нібы, атрымала ў гонар Рагнеды. Тут, у Заслаўі, Рагнеда пастрыглася ў манашкі, тут яна памерла ў 1000 годзе, тут, як мяркуюць, на гарадзішчы «Замэчак» і пахавана. «Магіла Рагнеды» да нашага часу застаецца загадкавым археалагічным аб'ектам Заслаўя. Гэта — узвышша на ўскраіне цяперашняга мястэчка, за 2 км ад Свіслачы, побач з забалочанай поймай рэчкі Чарніцы. Гарадзішча амаль круглае (70 х 74 м), абнесена валам вышынёй 5 м і неглыбокім ровам. Але гэтае гарадзішча не звязваюць з існаваннем старажытнага Ізяслаўля.

Найбольш верагоднае месца размяшчэння старажытнага горада — правы бераг Свіслачы паміж рэчкамі Княгінькай і Чарніцай, як гэта пазначана на плане, зробленым яшчэ ў 1858 годзе К.Тышкевічам. Падчас раскопак у 1967 годзе быў выяўлены пасад старажытнага горада XI—XII стагоддзяў. Але паселішча, верагодна, існавала раней, бо сярод знаходак былі і керамічныя вырабы, датаваныя VIII—IX стагоддзямі, а таксама бронзавыя іголка ды бранзалет VI—VIII стагоддзяў.




Дзядзінец старажытнага горада, як можна меркаваць, знаходзіўся там, дзе пазней былі збудаваны ўмацаванні сярэдневяковага замка ды кальвінскі збор, які цяпер перароблены на Спаса-Прэабражэнскую царкву. Мяркуюць, што будынак кальвінскага збору быў пабудаваны на падмурку нейкага будынка або сцяны летапіснага Ізяслаўля.

У 1969—1970 гадах археолагі капалі на дзядзінцы з паўночнага боку храма. Былі выяўлены рэшткі драўляных пабудоў, была знойдзена касцяная шахматная фігура — пешка, вытачаная на такарным станку. Адкапалі і вымастку з круглых бярвенняў ды ўздоўж яе рэшткі частаколу з бярвенняў, заглыбленых у зямлю на паўметра. Гэтыя пабудовы датуюцца XII стагоддзем.

Тады ж на глыбіні 2 м археолагі знайшлі некалькі кафляў, сярод якіх — адна з выявай герба Глебавічаў, якім належала Заслаўе ў XVI—XVII стагоддзях.

У выніку археалагічных пошукаў, якія пачаліся ў 1926 годзе, ды раскопак валоў усходняй часткі дзядзінца (1971—72 гады), калі былі знойдзены керамічныя вырабы канца X — пачатку XI стагоддзя, пацвердзілася, што Заслаўе збудавана напярэдадні другога тысячагоддзя пасля Хрыстовага нараджэння.

**Паводле кнігі Г.В.Штыхава «Гарады Полацкай зямлі» (IX—XIII стст.)**

P.S. Сёлета, калі ў Заслаўі святкавалі юбілей горада, адбылася там і навуковая канферэнцыя.

Выставы

# «Мастак беларускі па тэматыцы і па духу»

У галерэі «Мадэя» (Дом афіцэраў г. Менска) 21 лістапада адбылося адкрыццё выставы жывапісных твораў старэйшага беларускага мастака, прафесара, заслужанага дзеяча мастацтва Пятра Серапіёнавіча Крохалева, аўтара многіх тэматычных карцін, лірычных пейзажаў, партрэтаў сучаснікаў і дзяцей («Мае маленькія сябры», «Абаронцы Брэста», «На заданні», «Вясна на Вячы», «Рудабельская рэспубліка», «Бярэзіна», дыярама «Мінскі кацёл» (адзін са стваральнікаў).

Пётр Крохалеў нарадзіўся ў 1919 годзе ў Курганскай вобласці, партызаніў і ваяваў на франтах Вялікай Айчыннай вайны, вучыўся ў Ленінградскім інстытуце жывапісу, культуры і архітэктуры імя Рэпіна, дыпломную работу прысвяціў Тарасу Шаўчэнку («Арышт Тараса Шаўчэнкі ў 1852 г.»). Мастак спалучаў творчую працу з педагагічнай. Сорак гадоў жыцця ён аддаў Беларускаму дзяржаўнаму тэатральна-мастацкаму інстытуту (цяпер Беларуская акадэмія мастацтва). Быў дэканам і загадчыкам кафедры жывапісу і на гэтым становішчы быў клапатлівым выхавальнікам і дарадцай моладзі. Якадзначыў на адкрыцці выставы былы яго вучань і калега, рэктар Беларускай акадэміі мастацтва Васіль Шаранговіч: «Пётр Крохалеў — мастак беларускі па тэматыцы і па духу, а яго творчасць — цэлая эпоха ў беларускім выяўленчым мастацтве». Пра ўклад Пятра Серапіёнавіча ў развіццё беларускага мастацтва гаварылі мастакі Нінэль Шчасная, Барыс Аракчэеў, мастацтвазнаўца Ларыса Бортнік, дырэктар галерэі «Медэя» і іншыя. Усе яны жадалі Пятру Серапіёнавічу далейшых творчых поспехаў і здароўя.

**Ірына КРЭНЬ.**

Спадчына

Фатаграфія — дакумент. Здымак, зроблены шмат гадоў таму, дазваляе заглянуць у мінуўшчыну, робячы нас сведкамі падзей мінуўшчыны, даючы нам магчымасць параўноўваць, пазнаваць эпоху, здзіўляцца.

Сярод тых, хто пакінуў неацэнную фотаспадчыну, былі людзі рознага грамадскага становішча: навукоўцы, простыя вясковыя фатографы. Адзін з іх — Юзаф Шыманчык, які нарадзіўся ў 1909 годзе ў мястэчку Косава (цяпер Івацэвіцкі раён). Самастойна навучыўшыся майстэрству фатаграфіі, ён ужо з васемнаццаці гадоў пачаў зарабляць фотаздымкамі сабе на хлеб. Але Юзаф шмат здымаў для сябе, творачы своеасаблівы фоталетапіс беларускага Палесся — наваколля азёраў Белае і Спораўскае, у Косава і вёскі Пяскі (зараз Бярозаўскі край). На здымках Юзафа Шыманчыка — сяляне, майстры сцэны вясковага побыту.

Багаты фотаархіў Юзафа ледзь не загінуў у часе вайны, калі фашысты пры адступленні падпалілі ягоную хату. Згарэла ўсё, апроч негатываў, схаваных у склепе.

Пасля вайны Шыманчык пераехаў у Польшчу, дзе яшчэ сорак год працаваў фатографам у мястэчку Кутна, а цяпер, пенсіянер з 1985 года, жыве ў Лодзі.

Усё, што адбілася на фотаздымках Юзафа Шыманчыка, вартае самай высокай ацэнкі. Ягоныя фатаграфіі — у музеях і бібліятэках Варшавы, Кракава, Беластока, Менска, Бярозы — вабяць усіх, хто неабыякавы да гісторыі Беларусі.

**На здымку:** Маладзіца з вёскі Стрыгінь.

**Яўген КАЗЮЛЯ, кар.БелТА.**



## І смех і грэх

### Пародыі

*Георгій Юрчанка*

#### Зіма як паэтычнае натхненне

З радасцю сустракаюць нашы паэты зіму. Яна натхніла іх на стварэнне новых, непераўзыдзеных па выразнасці і адметнасці вершаваных строф, якім суджана жыць у вяках. Вось некаторыя ўзоры шэдэўраў паэтычнай **зімініяны**.

**КАЛІ Ў АГЛОБЛЯХ ПЕГАС**

*Праз столькі зім, праз столькі лет*
*Мяне расчуліў санны след.*

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ.**

Зіма. Сляды ад завірух.
Глыбокі ўздым, бадзёрасць, рух.
— Но-о, Вараны! — і пугі ўзмах.
Ці мала ездзіў я ў санях?!
Звычайны снег, звычайны след.
Але не быў бы я паэт,
Каб не спазнаў узрушны міг
І для сябе, і для другіх.
А ўсё таму, што ў гэты раз
У вазок запрэжан быў Пегас.

### Пачутае «У Лявона»

* * *

— Нешта ты дрэнна выглядаеш...

— Ой, не кажы, адны непрыемнасці. Дачцэ па-англійскай мове толькі тройкі ставяць...

— А што, пагаварыць з настаўніцай грошай няма?

* * *

— Ты чуў навіну: наш сябра Жукоўскі навучыўся перадаваць свае думкі на адлегласць?

— Гэтага не можа быць!

— Але чаму?

— Таму што сваіх думак у яго ніколі не было!

* * *

— Ты купіла новую кніжку? Пакажы!

— Глядзі, толькі не пагубляй старонкі.

— А навошта ты іх павырывала?

— Гэта тыя старонкі, якія не можна чытаць дзецям.

* * *

Песіміст:

— Не магу навучыцца адрозніваць дабро ад зла.

Аптыміст:

— Няма нічога прасцей: зло — гэта тое, што робяць іншыя.

### «Прэса-куламеса»

**Новая норма?**

«Не рэкамендуюцца **апераці** на органах пачуццяў, печані, нагах».

*«Звязда».*

«Ёсць у **калекці** дзіцячая мачалка ў выглядзе свінкі...»

*«Добры вечар».*

«Мне хацелася б тут **прывесі** адзін прыклад».

*«Добры вечар».*

**«Трусы, майткі, ці...«кролики»?**

«Карацей, калі вы вязеце нават **адну торбу трусоў** на агульную суму меншую за 2 тыс. даляраў, мытнік з поўным правам можа вырашыць, што вам гэтую тысячу пар за ўсё жыццё не знасіць, а значыць, вы — спэкулянт і павінны заплаціць мытную пошліну».

*«Свабода».*

**Не можа, а гаворыць...**

«Хоць не магу сказаць, **то** ў «Цівалі» сення ў кішэні пуста».

*«Літаратура і мастацтва».*

**І ў жывёлы ёсць навука!**

«На беразе маляўнічага горнага возера Цяньчы, што на паўночным усходзе Кітая, пабудавана станцыя назірання за невядомай **навуцы жывёлін**, якая быццам бы жыве ў тутэйшых глыбінях».

*«Звязда».*

**Карэспандэнтам не хапае не толькі зарплаты...**

«Як паведаміў **карэспідэнту** «Звязды» намеснік дырэктара гарадскога аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі Дзмітрый Астапчэня, прыкладна паўтары тысячы гродзенцаў ужо падалі заяўкі на ўстаноўку індывідуальных лічыльнікаў расходу халоднай і гарачай вады».

*«Звязда».*

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 1074

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 4500 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 11.12.1995 г. у 15 гадзін.